ПАГОНЯ

Чацвер
24 чэрвеня 1999 г.
№ 40 (417)
Кошт 25.000 руб.

## Памятны знак у гонар воінаў - памежнікаў

**У гарадзенскім лесапарку «Пышкі» ўрачыста адкрыты і асвечаны памятны знак у гонар воінаў-памежнікаў Аўгустоўскага памежнага атрада і курсантаў школы малодшых спецыялістаў памежных войскаў, якія загінулі на берагах Нёмана ў першыя дні вайны 58 гадоў таму. Адзіны, хто застаўся ў жывых, — капітан у адстаўцы Віктар Іваноў.**

Як паведамілі у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў Беларусі, у цырымоніі адкрыцця знаку, што адбылася 22 чэрвеня, узялі ўдзел кіраўнік памежнага ведамства рэспублікі генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі, прадстаўнікі гарадскoй і абласной адміністрацыі, духавенства. У ганаровай варце знаходзіліся вучні кадэцкага класа 28-й сярэдняй школы горада Гродна.

**Алег Сакалоў**

## Міліцыя супраць прафсаюзаў

**17 чэрвеня ў Гродне скончыўся пяцідзённы цыкл семінараў, арганізаваных Беларускім кангрэсам дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП). З досведам прафсаюзнай працы азнаёміліся 27 чалавек. Некалькі ўдзельнікаў навучання напісалі заявы аб прыёме ў незалежны прафсаюз.**

Як паведаміў інструктар БКДП па навучанню Сяргей Фамін, памяшканне для заняткаў было арэндавана ў сярэдняй школы N10, але нечакана туды завіталі супрацоўнікі міліцыі. Яны цікавіліся праграмай вучобы, асобамі выкладчыкаў і слухачоў, а таксама запатрабавалі дазвол гарвыканкама на правядзенне семінара. Паколькі такой паперы не было, яго ўдзельнікі апынуліся на вуліцы. Аднак падтрымку аказала гарадская арганізацыя Беларускага Народнага Фронту. Запланаваны курс лекцый і практычных заняткаў прайшоў ў штаб-кватэры БНФ. Трэба адзначыць, што незалежны прафсаюзны рух пашырае свае межы. Найбольш моцныя пазіцыі БКДП мае сёння ў такіх буйных прамысловых цэнтрах краіны, як Орша, Магілёў, Менск, Салігорск і Наваполацк.

**Антон Лабовіч**

## За затрымку адпускных - дысцыплінарнае спагнанне

**Там, дзе ёсць свабодныя прафсаюзы, там абараняюць правы рабочых на справе, а не на словах. Гэта яшчэ раз пацвердзіў Свабодны Прафсаюз Беларускі Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб'яднання.**

Шэраг работнікаў дадзенага прадпрыемства пайшлі ў водпуск з 1.06.99 года. Але адпускныя ім выплачаны былі толькі 7.06.99 года, што з'яўляецца парушэннем пункту 3.7 калектыўнага дагавора. Паводле ўмоваў дагавора, адміністрацыя аб'яднання абавязана выплочваць работнікам адпускныя за тры дні да пачатку водпуску. Старшыня Свабоднага Прафсаюза тонкасуконнага аб'яднання А.Зацэпін «абурыўся». Як вынік - дырэктару прадзільнай фабрыкі А.Волкаву аб'яўлена дысцыплінарнае спагнанне. Мараль: жадаеце своечасова атрымліваць адпускныя - уваходзьце ў склад свабодных прафсаюзаў.

**Валерый Леванеўскі**




**25 і 26 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер слабы, пры навальніцах - парывісты. Тэмпература паветра ўначы +8...+12, удзень +18...+22.



На Беларусі сенакосная пара...
Фота Irex/ProMedia

# Лукашэнка прайграў ліквідатарам

## Суд пацвердзіў ільготы «чарнобыльцаў» на праезд

**Чацвёртага траўня гэтага года сціплы гарадзенец Валерый Русецкі выйграў судовы спазыск у тралейбуснага ўпраўлення абласнога цэнтра, а разам з тым - атрымаў перамогу над усёй каманднай сістэмай рэжыму.**

Спадар Валерый у 1988 годзе ўдзельнічаў у ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Законам Беларусі «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» яму, як і іншым «чарнобыльцам», быў прадастаўлены шэраг ільготаў. Сярод іх - бясплатны праезд ў гарадскім грамадскім транспарце, а таксама чыгуначным, аўтамабільным і водным транспарце прыгарадных маршрутаў. Але нядоўга «чарнобыльцы» карысталіся ільготамі на праезд. Першы прэзідэнт краіны скасаваў большасць з іх сваім Указам.

«Чарнобылец» Валерый увесь гэты час думаў над юрыдычнай дылемай: як можа падзаконны акт (Указ) адмяняць дзеянне самога Закона? Перайсці да рашучых дзеянняў (нічога радыкальнага, барані Бог!) яго прымусіла нястрымная, неўтаймаваная энергія гарадзенскіх тралейбусных кантралёраў, якія затрымалі пасажыра В.Русецкага 22 лютага. Кантралёр А.Вярбіцкі склаў на безбілетніка пратакол, а начальнік тралейбуснага упраўлення наклаў штраф у памеры 250 тысяч рублёў. Так тэарэтычная праблема юрыспрудэнцыі перанеслася нарэшце ў сферу практычнага праваўжывання.

У судзе прадстаўнік тралейбуснага ўпраўлення В.Шчука спазыск В.Русецкага, у якім апошні прасіў адмяніць пастанову аб спагнанні штрафу, не прызнаў. Аднак спазысчык стаяў на сваім - маю права ездзіць без білета. Суду давялося «довады заяўляльніка прызнаць абгрунтаванымі». Было ўзгадана, што адзначаны Указ прэзідэнта быў адменены Канстытуцыйным Судом яшчэ ў 1995 годзе. Што ні новая, ні старая Канстытуцыя не дае права Указамі адмяняць Законы, а калі і дае, то на час адмены ільготаў «чарнобыльцам» такога права ў прэзідэнта дакладна не было. Суд спаслаўся нават на канстытуцыйную норму пра тое, што ў нас «устанаўліваецца прынцып вяршэнства права».

Такім чынам, суд прыняў рашэнне, у якім прызнаў, што Валерый Русецкі быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці незаконна і, значыць, справа аб штрафе падлягае спыненню. Асаблівa эфектна прагучаў апошні абзац рашэння суда: «спасылка прадстаўніка тралейбуснага ўпраўлення на нарматыўныя акты, якія выдадзены дзеля выканання Указа N349, з'яўляецца нядзейснай, паколькі ў сувязі са стратай Указам юрыдычнай сілы, усе іншыя акты, выдадзеныя на падставе дадзенага Указа, таксама не маюць юрыдычнай сілы».

У рашэнні суда сказана, што яно канчатковае і абскарджанню не падлягае. Ці прымусь яго да безумоўнага выканання беларускія транспартнікі? Ва ўсякім выпадку, цяпер любы безбілетны «чарнобылец» знаходзіцца пад асабістай аховай судовай улады. Акрамя таго, кожны такі аштрафаваны можа звярнуцца ў суд - і безумоўна, выйграе справу, ды яшчэ мае шанцы на спагнанне маральнай шкоды.

Так што лёс «чарнобыльцаў» у руках саміх «чарнобыльцаў». Нават, калі суд раптам зменіць сваю пазіцыю.

**Сяргей Самасей**

# Падайце дзецям, занядбаным дзяржавай!

Ганна Пятроўна Шведава працуе загадчыцай санаторнага яслі-садка N34, які знаходзіцца ў Гродне. Пяцігадовую гадавіну кіраўніцтва А.Лукашэнкі яна сустрэла тым, што разаслала па прадпрыемствах горада так званыя «жабрацкія лісты». У гэтых лістах яна піша, што бюджэтных сродкаў хапае толькі на харчаванне яе выхаванцам і просіць дапамагчы альбо грашыма, альбо матэрыяламі для рамонту. У адной з груп правалілася падлога, пачала разбурацца перагародка. Выхаванцы санаторнага садка часцяком саслабелыя, інфікаваныя на сухоты, дзеці з нядбайных сем'яў. Аднак апошнім часамужо не прывозяць рыбу, курэй, гародніну. Каб напаіць дзетак зёлкамі, выхавацелям даводзіцца скідвацца з тых грошай, што выдаткоўваюцца на літаратуру. Вострa патрабуюцца лекі, цацкі, папера, мэбля, тэлевізары.

«Няхай у Вас будзе добрым сэрца», - звяртаецца Ганна Шведава да патэнцыйных спонсараў. Але чаму яе бедаў не бачаць чыноўнікі Міністэрства адукацыі?

**Міхась Капялюш**

## Чыноўнікаў пабольшала

**17 чэрвеня Гарадзенскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб увядзенні дадатковай пасады спецыяліста па міжнацыянальных адносінах. Гэта выклікана тым, што ў вобласці жывуць прадстаўнікі 80-ці нацыянальнасцяў, зарэгістравана сем нацыянальна-культурных таварыстваў.**

Найбольш шматлікай арганізацыяй з'яўляецца 30-тысячны Саюз палякаў Беларусі. У культурным і грамадскім жыцці таксама актыўна прымаюць удзел абласны грамадскі цэнтр татарскай культуры, абласное аб'яднанне яўрэйскай культуры імя Льва Найдуса, абласны цэнтр нямецкай культуры, абласное аб'яднанне літоўцаў «Тэвінэ», украінскае таварыства «Барвінак» і абласная дума Рускага таварыства.

**Антон Лабовіч**

## Купалле-99 у ноч з 26 на 27 чэрвеня

Паважанае спадарства! З вялікім задавальненнем мы запрашаем вас прыняць удзел у гэтым свяце росквіту жыватворных сіл зямлі. Прыходзьце, калі ласка, з сям'ёй і сябрамі (пажадана ў беларускім народным строі) на месца каля турбазы «Нёман». Тэатралізаванае відовішча пачынаецца пры заходзе сонца, але ж перад гэтым вы зможаце пагуляць з намі ў гульні.

Праезд аўтобусам ад Палаца тэкстыльшчыкаў. Расклад руху аўтобуса: 18.00, 18.30, 19.00, 19.30.

## Лідскія міліцыянты супраць «бел-чырвона-белага»

**У Лідзе пасля футбольнага матчу паміж мясцовай і маладзечанскай камандамі ўвечары 17 чэрвеня міліцыянты затрымалі некалькі маладых прыхільнікаў футболу. У тым ліку аднаго з кіраўнікоў мясцовага аддзялення Маладога Фронту, рэдактара газеты «Лідар» і старшыню лідскага фан-клуба Алеся Ганевіча.**

Адпаведна словам Алеся Ганевіча, пасля футбольнага матчу аркестр мясцовага музычнага вучылішча, паводле даўняй традыцыі, у суправаджэнні групы футбольных прыхільнікаў з 50-60 чалавек, у асноўным моладзі, прайшлі па вуліцах горада.

У руках некаторых хлопцаў былі бел-чырвона-белыя сцягі. У раёне плошчы Леніна невялікая калона была выйшла на праезную частку і адразу была спынена міліцыяй. Супрацоўнікі праваахоўных органаў сталі разганяць прыхільнікаў, выкарыстоўваючы пры гэтым гумавыя дубінкі. Некаторыя падлеткі былі затрыманы і дастаўлены ў раённы аддзел унутраных справаў і апорныя пункты. Алеся Ганевіча затрымалі за тое, што ён нёс вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Міліцыянты адабралі сцяг, назваўшы яго пры гэтым анучай, якой цяпер будуць мыць машыны. Затрыманыя праз пэўны час былі адпушчаны.

**Генадзь Барбарыч**

## Міністр абароны зацікавіўся «Хімвалакно»

**18 чэрвеня завяршылася двухдзённая рабочая паездка міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова ў Гарадзенскую вобласць.**

Кіраўнік ваеннага ведамства наведаў гарадзенскае вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно», дзе азнаёміўся з вытворчасцю, сустрэўся з працоўным калектывам прадпрыемства, расказаў пра жыццядзейнасць і праблемы Узброеных Сіл Беларусі, а таксама калгас «Зарыца» Гарадзенскага раёна.

Падчас наведвання некаторых вайсковых часцей Гарадзенскага гарнізона, у прыватнасці 11-га пантонна-маставога палка, міністр цікавіўся арганізацыяй службы, бытавымі праблемамі военнаслужачых і членаў іх сем'яў і застаўся задаволены станам справаў у гэтай вайсковай часці.

**Алег Сакалоў**

## Затрымалі заробак

Настаўнікі некаторых гарадзенскіх школаў не атрымалі перад адыходам у адпачынак прызначаных ім грошай. Выплаты чакаюцца толькі напрыканцы чэрвеня, альбо ў ліпені. Больш таго, у асобных садках выхавацелькі яшчэ не атрымалі грошай за травень.

**Б.Кашталян**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Сойм абраў аргкамітэт і павіншаваў Васіля Быкава

**19 чэрвеня ў Менску на чарговым пасяджэнні сойму Беларускага народнага фронту створаны аргкамітэт па правядзенні шостага з'езду БНФ. З'езд павінен адбыцца 31 ліпеня — 1 жніўня гэтага года.**

Меркавалася, што ўзначальваць аргкамітэт па яго правядзенні будзе выконваючы абавязкі намесніка старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. Аднак ён узяў самаадвод, і кіраўніком аргкамітэта быў абраны намеснік старшыні Народнага фронту Вінцук Вячорка. Удзельнікі пасяджэння не згадзіліся з прапановай аб тым, каб аргкамітэт узначальвалі сумесна Вінцук Вячорка і Юрый Беленькі. Не была таксама падтрымана прапанова аб выключэнні са складу камітэта першага намесніка старшыні БНФ Сяргея Папкова і адказнага сакратара управы Анатоля Крываротa. Вызначаны квоты дэлегатаў з'езду ад рэгіянальных арганізацый. Аргкамітэту рэкамендавана цесна каардынаваць сваю работу з лідэрам арганізацыі Зянонам Пазьняком, які знаходзіцца ў эміграцыі.

На пасяджэнні разгарнулася вострая дыскусія адносна сцэнарыя будучага з'езду, прайшоўшых нядаўна прэзідэнцкіх выбараў, аб'яўленых Вярхоўным Саветам 13- га скліканocc, і пазіцыі шэрагу лідэраў Фронту.

Сойм Беларускага народнага фронту накіраваў віншаванне народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву ў сувязі з яго 75-годдзем. «Ваш вялікі духоўны аўтарытэт дае Беларускаму народнаму фронту сілы і надзеі на перамогу, — гаворыцца ў віншаванні. — Для ветэранаў і маладых, для радавых фронтаўцаў і кіраўнікоў вашы кнігі заўсёды былі законам сумлення і праўды». Удзельнікі пасяджэння пажадалі пісьменніку шчасця, натхнення, моцнага здароўя і яшчэ шмат дзён нараджэнняў. Тэкст віншавання падрыхтаваў лідэр «Маладога фронту» Павел Севярынец.

**Генадзь Барбарыч**




# Зянон Пазьняк - маральны лідэр

**Адказны сакратар управы БНФ Анатоль Крыварот расказаў аб меркаванні Зянона Пазняка ў сувязі з рашэннем апошняга сойму БНФ, які вызначыў дату правядзення шостага з'езда народнага фронту і склад аргкамітэта па яго падрыхтоўцы.**

На сойме прагучалі розныя думкі аб месцы правядзення з'езда, у тым ліку за мяжой — у сувязі са складанай грамадска-палітычнай сітуацыяй у краіне. Паводле слоў Анатоля Крыварота, Зянон Пазьняк настойвае на правядзенні з'езда толькі ў сталіцы Беларусі. З.Пазьняк разлічвае на актыўнае супрацоўніцтва з аргкамітэтам, кіраўніком якога сойм абраў Вінцука Вячорку —аднаго з галоўных апанентаў кіраўніка БНФ.

«Падрыхтоўка і правядзенне з'езда, — падкрэсліў А.Крыварот, — гэта агульная задача кіраўніцтва арганізацыі і я спадзяюся, што В.Вячорка будзе падтрымліваць цесную сувязь з яе кіраўніком. Тым больш, што сойм прыняў рашэнне аб неабходнасці сустрэчы членаў аргкамітэта са старшынёй БНФ.»

На пытанне карэспандэнта ці будуць на з'ездзе вылучаны новыя кандыдаты на пасаду кіраўніка арганізацыі, альтэрнатыўныя Зянону Пазьняку, найбольш рэальным з якіх лічыцца В.Вячорка, Анатоль Крыварот адказаў, што гэта не супярэчыць статуту і дэмакратычнаму характару БНФ. На ягоную думку, у Народнага фронту ёсць годныя кандыдаты каб ўзначаліць арганізацыю, але З.Пазняка вызначаюць не толькі арганізатарскія здольнасці. Для большасці фронтаўцаў ён —маральны лідэр.

«Магчыма, адзін з нешматлікіх не толькі ў арганізацыі, але і ва ўсёй краіне, — сказаў А.Крыварот, —тысячы членаў арганізацыі бачаць менавіта Пазьняка сваім лідэрам. І чым бы не завяршыўся з'езд — для іх Зянон Пазьняк па-ранейшаму застанецца кіраўніком. Яны яму проста не дадуць пайсці».

**Генадзь Барбарыч**

# Зьезд БНФ за мяжой?

**З прапановай правесьці Зьезд БНФ за мяжой выступіла Віцебская Рада БНФ «Выбар». Пад воплескі і размахваньне бел-чырвона-белымі сьцягамі прысутныя на Сойме БНФ 19 чэрвеня выслухалі выступ рэдактара газэты «Выбар» Барыса Хамайды, які, таксама, перадаў фронтаўцам прывітаньне ад Мірона.**

У зачытаным ім звароце зьвяртаецца ўвага на тое, што «...кожны дакладчык ці выступоўца, які прапануе канкрэтныя крокі па ліквідацыі рэжыму, будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці. А без такіх прапаноў Зьезд ператорыцца ў звычайны форум ... зь нявартымі ўвагі заявамі...» Пры гэтым нагадваецца, што першы Зьезд БНФ пры значна больш спрыяльных на Беларусі абставінах праводзіўся ў Вільні. Таксама дзеля апэратыўнага рэагаваньня на імклівыя зьмены падзеяў Рада прапануе правесьці рэарганізацыю й узмацненьне кіраўніцтва Фронтам. Кіраваць, на думку «выбарцаў», павінен старшыня, а пры ягонай адсутнасьці - намесьнік, а не калегія намесьнікаў. З-за аморфнага стану пры вымушанай эміграцыі старшыні БНФ Зянона Пазьняка й наяўнасьці шасьці ягоных намесьнікаў адбыліся хібы ў правядзеньні выбараў Прэзідэнта Беларусі з 6 па 16 траўня 1999 года. Хлусьлівыя падтасоўкі лічбаў удзельнікаў галасаваньня падарвалі давер да гэтай кампаніі з боку насельніцтва і спарадзілі гіранічны зьдзек з боку ўлады.

Усё гэта абумоўлівае патрэбу фронтаўцам сабрацца разам ў незалежнай ад палітычнага перасьледу вольнай абстаноўцы, і выпрацаваць канрэтныя планы дзеяньняў з абавязковай наяўнай справаздачай старшыні Фронта Зянона Пазьняка. У адваротным выпадку, сьцьвярджае Рада «Выбар», адбудзецца фактычнае прызнаньне легітымнасьці сёньняшняга рэжыму.

**Юрась Карпаў**

# Фашысты зноў пачынаюць з Брэсту?

**У сувязі з нападам расейскіх фашыстаў у ноч з 21 на 22 чэрвеня на сябра берасьцейскага Маладога Фронту Аляксея Балашова, у выніку чаго апошні атрымаў цялесныя пашкоджаньні, - Берасьцейскі аддзел грамадзка-спартовае арганізацыі «Край» пакідае за сабою права на прыняцьце адэкватных мераў.**

Пра гэта паведамілі ПАГОНІ з Берасьцейскай філіі праваабарончага цэнтру «Вясна-96».

Як вынікае з паведамленьня, пачынаючы з 26 чэрвеня сябры арганізацыі «Край» пры магчымым удзеле прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый у месцах верагоднага зьяўленьня расейскіх нацыстаў будуць праводзіць патруляваньне. Акцыя будзе абмяжоўвацца рамкамі простага патруляваньня.

**Ул. інф.**

# Супрацiўляцца можна і надпісамі

**Раніцай 22 чэрвеня да поўдня віцебскія ўлады старанна зафарбоўвалі ды заціралі беларускія надпісы на цэнтральных будынках гораду. Асабліва пацярпеў будынак абласнога Камітэту дзяржкантролю ды блізьлежачыя да Амфітэатру сьцены дамоў.**

Як можна было прачытаць, невядомыя пакінулі словы «...расейская арда», «прэч славянскія базары». А таксама: «Беларусь — у NATO, Луку — за краты».

**Юрась Карпаў**

# Назад, у светлае ўчора! Але куды? У 1937 год?

**Неаднаразовыя пажаданні прэзідэнта Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі па эканамічных паказчыках вярнуцца да ўзроўня 1990 года, а таксама яго настальгічныя ўспаміны наконт часінаў магутнага Савецкага Саюзу сведчаць пра яго сур'ёзны намер павярнуць ходу гісторыі назад. Яго практычныя дзеянні па нацыяналізацыі ўсёй эканомікі, па ўсталяванню таталітарнага кантролю над усім грамадскім і палітычным жыццём рэспублікі пацвярджае сам факт вяртання да часоў недалёкага камуністычнага мінулага. Відаць, ён лічыць гэтае вяртанне за шчасце для народа.**

Калі на адной з першых прэс-канферэнцый у 1994 годзе А.Лукашэнку спыталі, па якім шляху ён павядзе Беларусь - па камуністычным альбо па капіталістычным, ён адказаў: «Мы эти «измы» уже прошли, мы будем делать в Белоруссии то, что будет нужно белорусскому народу». На першы погляд, гучыць прыгожа: «Делать то, что нужно белорусскому народу». Але толькі хто будзе вызначаць, што ж патрэбна гэтаму народу? Відавочна, прэзідэнт меў на ўвазе сябе. Магчыма, Аляксандр Рыгоравіч сапраўды хацеў ашчасліваць свой народ. Але адна справа хацець, а другая - сапраўды зрабіць. Паўстае пытанне: «Калі прэзідэнт краіны ўвесь час згадвае, што ён робіць усё ў інтарэсах народа, дык ці адпавядае гэта рэчаіснасці?»

Імем народа, інтарэсамі народа прыкрывалася большасць дыктатараў. Сталін «во благо народа» расстрэльваў «ворагаў народа», Пол Пот у імя «шчаслівай будучыні» свайго народа забіў мільёны суайчыннікаў, Гітлер дзеля «шчасця» свайго народа знішчаў іншыя народы. Можна прывесці яшчэ шэраг прыкладаў, калі нібыта дзеля «вялікай» мэты ўчыняліся злачынствы, знішчаліся бязвінныя людзі. Пол Пот зганяў грамадзян сваёй краіны на рысавыя палі, прымушаў іх спяваць і працаваць пад спякотным сонцам. Замежным журналістам ён казаў: «Глядзіце, людзі працуюць і спяваюць, значыць яны шчаслівыя, яны гэтага жадаюць». Потым высветлілася, што мільёны грамадзянаў Кампучыі былі забітыя проста матыкамі дзеля ажыццяўлення злачыннага сацыяльнага эксперыменту.

Ідэяй гвалтоўна ашчасліваць людзей і нават усё чалавецтва былі апанаваны бальшавікі, якія ўсур'ёз разглядалі магчымасць сусветнай рэвалюцыі. На шчасце для чалавецтва, фантастычны эксперымент не ўдаўся і «ашчасліваць» усё чалавецтва бальшавікі не здолелі, а цывілізаваны Захад так і зараз жыве, «не осчастливленный» бальшавікамі.

Кожны дыктатар лічыць, што толькі яму вядома сапраўднае паняцце шчасця чалавека. Не лішнім будзе нагадаць знакамітае выказванне А.Лукашэнкі: «Главное, чтобы были чарка и шкварка». Відаць, такім чынам ён разумее шчасце свайго народа. У праектах некаторых навукоўцаў фашысцкай Нямеччыны ў свой час прапанавалася стварыць чалавекападобную істоту, якая радавалася б, што памідор чырвоны, што трава зялёная, не задумвалася б ні пра якую палітыку, а займалася б толькі тым, што працавала там, дзе яе паставілі і пры гэтым пакідала б пасля сябе такіх жа нашчадкаў. Зразумела, такія грамадзяне з'яўляюцца ідэальнымі з пункту гледжання дыктатараў, бо робяць тое, што ім загадаюць, упэўненыя, што іх правадыр самы разумны, верачь у яго нібыта ў Бога. Эксперыменты навукоўцаў фашысцкай Нямеччыны скончыліся безвынікова, затое дыктатары іншых краінаў стваралі ў сябе такіх чалавекападобных істотаў, але не з дапамогай навукоўцаў, а іншым шляхам.

Які ж гэта шлях? Надзвычай жорсткі тэрор, здушэнне ўсялякага іншадумства і абалваньванне людзей, што характэрна для любой дыктатуры. З дапамогай тэрору ў свядомасць людзей закрадаецца страх; ён паралізуе іх волю, прымушае падпарадкоўвацца заганным загадам. Рэгулюючы паступленне да грамадзянаў толькі той інфармацыі, якая выгадная дыктатарам, яны дамагаюцца сляпога падпарадкавання, сляпой веры. Чалавека ў такой сістэме нельга сапраўды назваць чалавекам, бо ён замбаваны. Нават у нашы дні некаторыя замежныя журналісты, што наведалі Паўночную Карэю, шчыра здзіўляліся: як гэта людзі з голаду ядуць траву, аднак горача любяць свайго правадыра.

Паўночная Карэя - найбольш яскравы прыклад комплекснага абалваньвання людзей, дзе ўдасканалены ўсе атрыбуты дактатуры. Гэта - тэрор з выкарыстаннем паўночнакарэйскіх ГУЛАГаў, гэта абсалютная ўлада дыктатара, гэта поўны кантроль над сродкамі масавай інфармацыі, поўнае бяспраўе народа. Што ж агульнага паміж паўночнакарэйскім рэжымам і рэжымам асабістай улады, які ўсталяваўся на Беларусі?

На Беларусі, таксама, як і ў Паўночнай Карэі фактычна ўсталявана неабмежаваная асабістая ўлада аднаго чалавека, «кішэнны парламент», поўнае падпарадкаванне выканаўчай, заканадаўчай і судовай улады, кантроль над сродкамі масавай інфармацыі і над эканамічнай ды фінансавай дзейнасцю любых прадпрыемстваў. Што б ні казаў сам прэзідэнт і яго атачэнне, фактычна ён абраў камуністычны варыянт развіцця краіны. Нічога новага Аляксандр Рыгоравіч не вынайшаў, усё гэта ўжо было і ў значна большых маштабах, з большым матэрыяльным забеспячэннем, але тым не менш, камуністычная сістэма пала.

Больш-менш «здравомыслящие» эканамісты разумеюць усю згубнасць эканамічнага курсу, абранага Лукашэнкам, пяць гадоў кіравання дзяржавай - гэта пяць гадоў зніжэння вытворчасці, росту інфляцыі, зніжэння жыццёвага ўзроўня насельніцтва. Тлумачыць народу, што гэта нейкія «часовыя» цяжкасці, становіцца ўсё цяжэй. Таму А.Лукашэнка пачынае ўжываць выпрабаваны сродак усіх дыктатараў - тэрор. Сотні іншадумцаў пераследуюцца, паводле надуманых падставаў фабрыкуюцца крымінальныя справы, і далей падкантрольныя прэзідэнту суды штампуюць тыя выракі, што ім прадпісаны зверху. Кіруючы рэжым не выконвае нават уласную Канстытуцыю, складзеную ў свой час «под себя». Парушэнне правоў чалавека дасягнула такіх маштабаў, пра якія пяць гадоў таму не магло весціся і гаворкі. Існуюць дакументы, што прадпісваюць усім органам дзяржаўнай улады, супрацоўнікам праваахоўных органаў, пракуратуры, судам, супрацоўнікам спецслужбаў, мытнікам, фінансавым органам, якім чынам ім трэба змагацца з так званай «радыкальнай апазіцыяй». Эвалюцыя любога таталітарнага рэжыму ўключае ў сябе некалькі агульных для ўсіх этапаў. Сённяшні этап на Беларусі нагадвае 1937 год у маштабе Савецкага Саюза. Да 1937 года стала зразумела, што павышэнне жыццёвага ўзроўня насельніцтва ў выніку праведзенай калектывізацыі ды індустрыялізацыі не адбылося. Трэба было на некага спісаць правал эканамічнай палітыкі, і Сталін знайшоў, на каго - на «ворагаў народа».

Сёння на Беларусі ўсё большай колькасці грамадзянаў становіцца зразумела, што Лукашэнка вядзе краіну ў тупік. Як любы дыктатар, ён сутаргава чапляецца за ўладу. Сам сабе ён падоўжыў паўнамоцтвы і выкарыстоўвае тыя ж метады, што і яго папярэднікі, прыкладам, Сталін. Былі патрэбны вінаватыя, і яны знойдзены - ужо сядзяць Старавойтаў, Клімаў, Кудзінаў, Чыгір ды іншыя. Паводле логікі развіцця такіх рэжымаў, хутка спатрэбяцца тысячы, а магчыма, і дзесяткі тысяч «ворагаў народа», спатрэбяцца новыя ГУЛАГі, да таго ж, спярша ў іх будуць сядзець «ворагі», пасля «паплечнікі», потым усе, хто патрапіць.

Свабода - гэта толькі свабода для тых, хто думае інакш. Лукашэнка не задаволены тымі, хто думае іначай за яго ды выказвае нязгоду з праводзімай ім палітыкай, а таму прэзідэнт выкарыстоўвае любыя метады аж да нейтралізацыі (узгадайце Віннікаву, Захаранку...). Па меры таго, як нарастае незадаволенасць народа, яму давядзецца альбо пайсці на нармальныя дэмакратычныя выбары, альбо на тэрор, падобны да 1937 года. Улічваючы геаграфічнае становішча Беларусі, цяжка выказаць меркаванне, што А.Лукашэнка адважыцца на рэпрэсіі дзесяткаў тысяч людзей. У гэтым выпадку ягоны рэжым стане прадметам «заклапочанасці» як заходніх, так і ўсходніх суседзяў, хутчэй за ўсё ён патрапіць у ізаляцыю, і ў дачыненні да яго міжнародная супольнасць будзе скарыстоўваць палітычныя і эканамічныя санкцыі. У любым выпадку гэты рэжым асуджаны на гібель, пытанне часу - калі ён зменіцца, аднак гэта час страчаных магчымасцяў.

Беларусь ужо страціла ў параўнанні са сваімі заходнімі суседзямі не менш як дзесяць гадоў, але страціць яшчэ болей, калі агонія гэтага рэжыму працягнецца яшчэ даволі доўга. Поспехі і досвед Кітая сведчаць, што рашэнне шматлікіх праблемаў можа быць дасягнута вельмі проста. Архітэктар кітайскай перабудовы Дэн Сяо Пін казаў: «Багацець - справа гонару кожнага!». Нашы саматужныя «эканамісты» прытрымліваюцца іншага меркавання. Для іх усеагульнае збядненне людзей пры неабмежаванай уладзе дыктатара - шчасце для народа.

**А.Васілевіч**

 



# Алкагольны дэкаданс

**Лета, спякота. Звыклай з'явай сталі грамадзяне, якія адпачываюць ад перадазіроўкі спіртнога на лаўках у цэнтры горада і на ўскраінах. І калі раней да чалавека на асфальце падыходзілі, каб прапанаваць дапамогу, дык цяпер абмінаюць, бо зразумела -напіўся так, што ногі не трымаюць. Па звестках афіцыйнай статыстыкі, у 1998 годзе кожны дарослы (пасля 18 гадоў) чалавек у Беларусі «прыняў на грудзі» 75 пляшак гарэлкі і 60 пляшак віна.**

## I. Меркаванне спецыяліста

І калі ў іншых краінах народ п'е больш для задавальнення, смакуючы віно з вустрыцамі, дык нашыя выбіраюць тое, што мацней «б'е па галаве» - гарэлку, самагон, танныя вінныя напоі.

Пра тое, у чым прычына алкагалізацыі беларусаў, мы размаўляем з загадчыкам наркалагічнай паліклінікі г.Гродна Юрыем Уладзіміравічам Курылавым.

***- Юрый Уладзіміравіч, як Вы лічыце, чаму сёння чалавеку жыццё не ў радасць без бутэлькі?***

- П'янства - хвароба сацыяльная. Калі пачынаецца масавае спойванне -значыць, у грамадстве сур'ёзныя праблемы. Самая распаўсюджаная прычына злоўжывання алкаголем у прыватным жыцці - несупадзенне жаданняў з магчымасцямі, што мы і назіраем сёння. Крызіс у эканоміцы, нізкі пражытковы ўзровень падштурхоўваюць чалавека «тапіць» гора і няўдачы ў чарцы. Сёння цяжка ці амаль немагчыма дасягнуць самых неабходных мэтаў - жыць па-людску ў асабістай кватэры, сумленна зарабіць сабе на жыццё, у водпуск адпачываць, а не карпацца ў градах. Таму некаторыя людзі, апынуўшыся, на іх думку, у безвыходнай сітуацыі, звяртаюцца да універсальнага суцяшальніка. Ап'яненне на кароткі час адводзіць ад бедаў, ствараючы ілюзію шчасця.

***- Людзі з якімі тыпамі характару найбольш схільныя да алкагалізму?***

- Асобы з надумлівым характарам, няўпэўненыя ў сабе, уражлівыя, лёгкаранімыя. У ліку «групаў рызыкі» - няўстойлівасць да стрэсаў і перанесеныя цяжкія чэрапна-мазгавыя траўмы. Аднак трапіць у залежнасць можа любы. І што яшчэ цікава - ад усяго. Чалавечая натура схільная да крайнасцяў: хто «запоем» кніжкі чытае, хто ўсе грошы траціць на калекцыі дарагіх запальнічак, хто спортам займаецца да знямогі. Галоўнае - ведаць меру ва ўсім.

***- А дзе яна, гэтая мера? Напэўна, ёсць дакладныя крытэрыі для праверкі кожнага для сябе: зашмат я п'ю або ў меру?***

- Так, ёсць чатыры сімптомы. Калі вы іх заўважыце ў сабе, трэба пачынаць турбавацца. Першы: вы павінны знаходзіцца ў пэўным месцы ў пэўны час і быць пры гэтым цвярозым. А вы альбо не прышлі з-за выпіўкі, альбо прыйшлі, але нападпітку. Другі: вы неаднаразова спрабавалі абмежаваць ужыванне алкаголя, вас раздражняе пытанне пра вашае п'янства ад іншых людзей. Трэці: вы перажываеце віну за тое, што напіліся ўчора ці за тое, што ўвогуле п"яце. Чацвёрты: вы пахмяляецеся назаўтра пасля выпіўкі.

***- Ці ёсць медычныя паказчыкі дапушчальнай дозы ўжывання алкаголя?***

- Так, ёсць «нормы» для абсалютна здаровых людзей. У тыдзень мужчына можа ўжыць не больш за 35 адзінак алкаголя, жанчына - не больш за 21 адзінку. Адна адзінка алкаголя роўная 10 грамам чыстага спірту ці аднаму бакалу сухога віна. Але гэта не значыць, што тыднёвую «норму» трэба выпіваць у адзін дзень. Каб захаваць сваё здароўе, піць трэба патроху, раўнамерна. Пры гэтым не менш за два дні ў тыдзень павінны быць абсалютна цвярозымі. Яшчэ раз паўтару - гэта гранічная мяжа, лепш трымацца ад яе падалей.

***- Што рабіць, калі чалавек заўважыў за сабой нездаровую звычку?***

- Я як урач адразу скажу - не трэба звяртацца да шырока разрэкламаваных гамеапатычных цудалекаў і экстрасэнсаў. Алкагалізм - хранічны працэс, падчас якога разбураецца нервовая сістэма. Звыклая з'ява, калі закадаваны чалавек быццам бы і не п'е, але радасці ад гэтага сям'і і блізкім няма. Справа ў парушанай псіхіцы: з'яўляецца беспадстаўная агрэсія, дэпрэсіўны стан, стрэс. Так што за лячэнне трэба брацца сур'ёзна. У Гродне на вуліцы Міцкевіча, 5 ёсць кабінет ананімнага лячэння. Калі чалавек звяртаецца па дапамогу сам, а не па накіраванні міліцыі - не ставім на ўлік. Не пытаемся імя і адрас. Лячэнне складаецца перш за ўсё з псіхатэрапіі, кансультацыяў свваякоў. Вяртанне да жыцця патрабуе валявых якасцяў. Да таго ж, у лячэнні вельмі важная пасляховая рэабілітацыя і рэсацыялізацыя, спачуванне родных і сяброў. Да вылячэння трэба ісці сумленна, з асабістым жаданнем. Калі гэта робіцца пад прымусам - добрых вынікаў чакаць не варта.

## II. Што будзе з ЛТП?

Адной з галоўных прычынаў рэзкага росту захворвання на алкагалізм быў развал сістэмы наркалагічнай дапамогі. У рэспубліцы яшчэ ў 1991 годзе ўсё прайшло, як заўсёды ў нас, ціха і хутка. Наркалагічная служба рэспублікі Палажэннем Міністэрства аховы здароўя была пастаўлена перад фактам - толькі добраахвотнае лячэнне. Вынік - скарачэнне колькасці наркалагічных аддзяленняў, закрыццё ЛТП. На Беларусі колькасць ЛТП скарацілася з пяці да двух. Відавочна, што кліентаў набралася б, напэўна, і на дзесяць. Аднак сама ідэя ЛТП з самага пачатку была скажонай, што і прывяло да правалу. ЛТП былі перададзены ў падначаленне МУС, якое адразу на першае месца паставіла не лячэнне, а пазбаўленне волі. Адсюль - адна шкода. Бачылі вы хоць аднаго «пацыента» пасля ЛТП, які б стаў чалавекам? Яны пазбаўляліся грамадзянскіх правоў, не здабываючы нічога. Знаходжанне ў гэтай установе не ішло ў працоўны стаж, хоць «пацыенты» праходзілі працатэрапію. Адбыўшы паўтара года на лячэнні, чалавек часта не знаходзіў ні сям'і, ні кватэры і папаўняў шэрагі бамжоў.

На цяперашні час у Беларусі зарэгістравана каля 170 тысяч хворых на алкагалізм. Гэта тыя, хто быў пастаўлены на ўлік за іх небяспеку для людзей. Рэальная ж лічба, па меркаваннях наркалагаў, не менш як у 10 разоў вышэйшая і складае каля двух мільёнаў у 10-мільённай краіне. Толькі ў Гарадзенскай вобласці на ўліку стаіць каля 20 тысяч чалавек, што вядуць антыгарамадскі лад жыцця. З іх тры тысячы -жанчыны. А колькасць аматараў Бахуса ў вёсках наогул не паддаецца якомунебудзь вымярэнню.

На сённяшні дзень Міністэрствам аховы здароўя распрацавана «Праграма нацыянальных дзеянняў па перадольванню алкагалізацыі насельніцтва». Яна прадугледжвае адкрыццё новых ЛТП у кожнай вобласці, у тым ліку для жанчын. Вырашана, што прымусовае лячэнне неабходна ў цяперашніх абставінах. Аднак на практыцы пакуль што нічога не мяняецца, бо на адкрыццё дадатковых «прафілакторыяў» патрэбныя грошы. Аднак п'яніцы не павінны расслабляцца - выцвярэзнік у Гродне, у які штогод трапляе больш за чатыры тысяч чалавек, заўсёды трымае напагатове ўвесь свой комплекс паслугаў.

## III. Чаму людзі п'юць

Найбольш падвергнутыя п'янству сацыяльныя групы насельніцтва -моладзь і пенсіянеры. Людзі сярэдняга ўзросту звычайна знайшлі сваю нішу ў жыцці, зарабляюць, утрымліваюць сям'ю - часу на папойкі застаецца менш. Моладзь жа, не маючы куды рэальна прыкласці свае сілы, часта співаецца. Асабліва датычыць гэта тых маладых людзей, якім не пашчасціла ўвайсці ў праслойку «залатой моладзі» ці «новых беларусаў». Перспектыва вучыцца ў ВНУ пяць гадоў, каб потым зарабляць 10 мільёнаў на працы разумнага чалавека не задаволіць.

На жаль, асабліва пагрозлівая праблема стала для маладых з якімніякім творчым талентам. 23-гадовы Саша з дзяцінства прафесійна займаўся танцамі. Скончыў 10 класаў, пайшоў у вучылішча культуры. Выдатна іграе на гітары, меў свой музычны гурт. Пішa вершы на трох мовах, складае музыку. Падчас вучобы працаваў дзеля заробку ў Чэхіі, Польшчы на будоўлях. «Я тут сваімі талентамі не змагу пракарміцца, не тое, што пражыць па-чалавечы. Дык нашто яны мне? Для чаго мне нешта рабіць?» - кажа ён. Хутка ваганням паміж працай і вучобай Саша знайшоў замену. Верным сродкам аказаўся гандаль наркотыкамі. Крэк-гандляры без алкаголя і «сробы» тавару цягнуць нядоўга. Цяпер ён падобны на старога - ці сядзіць на «кайфе», ці шукае грошай на новую дозу.

У Гарадзенскай вобласці на сярэднестатычную душу насельніцтва ў месяц прыпадае 7-8 пляшак віна-гарэлачных вырабаў. Гэта - разам з немаўлятамі, дзецьмі, цяжарнымі жанчынамі і старымі. Гэта -акрамя піва, шампанскага ды іншых прысмакаў.

Другая група патэнцыйных алкаголікаў у нашай краіне - пенсіянеры. Пасля выхаду на заслужаны адпачынак яны «выпадаюць» з жыцця, асабліва гэта тычыцца мужчын.

Каля пад'ездаў жылых дамоў штодзённа кучкуюцца групкі з мужчын 55-65 гадоў. Адзінае, што звязвае гэтых людзей - спіртное. Яны не знаходзяць сабе іншага занятку, бо і маладым працаваць няма дзе - прадпрыемствы або стаяць, або плацяць чыста сімвалічна. Англьскі пісьменнік Грэм Грын пісаў, што на пенсіі абавязкова трэба мець хобі, інакш хутка ці састарэеш, ці сап'ешся. Нашым пенсіянерам відавочна не да хобі - хапіла б на хлеб і каўбасу.

Пакаленне сённяшніх 50-60-гадовых - адно з самых трагічных за апошнія сто гадоў. Пасля развалу таталітарнай імперыі ў 85-91 гадах яны маглі стаць першым вольным пакаленнем. Замест гэтага яны становяцца ў лепшым выпадку апошнім савецкім пакаленнем.

У любым выпадку гарэлка становіцца верным сродкам адысці з рэальнасці ў ілюзію шчасця і дабрабыту. Як сказаў адзін знакаміты рэжысёр, «краіна топіць беды на дне шклянкі. Гэта не што іншае, як упадак, мясцовы дэкаданс».

**Алена Сіневіч**




# Курсы валют

**На 23 чэрвеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 257.000 беларускіх рублёў. Еўра — 265.583,80. Нямецкая марка — 135.790,84. Расійскі рубель — 10.610.

У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся. На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску з ранку 23 чэрвеня даляр куплялі па 430.000—435.000 і прадавалі па 440.000—445.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

**Дзмітрый Уласаў**

# Без польскага сала цяжка...

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі зняло забарону на ўвоз у краіну з Польшчы яек, мяса-малочнай прадукцыі, тлушчаў жывёльнага паходжання, а таксама кармоў, што ўтрымліваюць бялкі жывёлы.**

-Па шматлікіх просьбах працоўных кошты на прадукты харчавання зноў будуць падвышаны!

Забарона была абвешчана ветэрынарнай службай Мінсельгасхарчу напачатку чэрвеня ў сувязі са скандалам вакол «бельгійскага мяса», заражонага дыяксінам. З-за таго, што пастаўкі ў Беларусь ажыццяўляліся праз Польшчу і краіны Балтыі, вета было накладзена і на прадукцыю гэтых дзяржаў. Адначасова, як адзначыў начальнік галоўнага ўпраўлення ветэрынарыі і дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыі Мінсельгасхарчу Аляксей Камандышка, дазвол на ўвоз з Польшчы вышэйпералічаных прадуктаў і кармоў уваходзіць у сілу толькі пры наяўнасці адпаведных заключэнняў польскіх ветэрынарных службаў, якія павінны гарантаваць чысціню ўвозімых прадуктаў.

А.Камандышка таксама паведаміў, што зараз разглядаецца пытанне і аб увозе ў Беларусь кармоў і прадуктаў харчавання з краін Балтыі — зноў жа пры наяўнасці адпаведных заключэнняў ветэрынарных службаў гэтых дзяржаў.

**Ул. інф.**

# Мора піва і Лідскае возера

**У Лідзе - мора піва, хмельная хваля якога дасягае аж да Масквы і Санкт-Пецярбурга. А побач з піўзаводам раскінулася Лідскае возера.**

У спёку тут адпачываюць і купаюцца тысячы гараджанаў. І часам да вады крочыць вадалаз...

Сяргей Русіновіч толькі што поўзаў па дну возера. У вадалазным касцюме. Бачнасць нулявая - шнарыў па дну рукамі. У адным месцы Сяргей праваліўся ў тарфяное дно, па пояс. Балазе, наверсе калегі страхуюць. З учарашняга дня тут шукаюць труп мужчыны... Той ноччу на беразе весялілася кампанія на падпітку. Адзін чалавек згубіўся - адзенне панесці дадому. Відаць, мужчына ўтапіўся. Праўда, ратаўнікі памятаюць выпадак, як аднаго «тапельца» цэлыя суткі не было. А потым, у адных трусах, заяўляецца дахаты. Чаго толькі не здараецца на п'яную галаву...

- Першы трагічны выпадак у гэтым купальным сезоне здарыўся чацвёртага чэрвеня, - кажа начальнік Лідскай выратавальнай станцыі Яўген Голубеў. - Мы дзяжурым на Лідскім возеры да 20.00, а той п'яны грамадзянін вырашыў купацца, як добра сцямнее. Раніцай дасталі...

Уратавалі мы з пачатку купальнага сезона шэсць чалавек. А вось за мінулы год - 19. Зразумейце мяне правільна: і «дзякуй» не кажуць. Нядаўна выратавалі дзяўчынку - ад бацькоў ні слова падзякі... Як Вы думаеце, дзе больш за ўсё гінуць людзі? За 1998 год па Лідскаму раёну ў аўтакатастрофах загінула тры чалавекі, згарэла ў агні восем, а тапельцаў - 19! Сёння нам значна дапамагае гарадская міліцыя. А ў саміх ратавальнікаў няма права аштрафаваць п'яных ці тых, хто купаецца ў забароненых месцах...

Прыемна цёплай ноччу завітаць у рэстаран «Стары замак», што ў двух кроках ад Лідскага возера. Рэстаран належыць АТЗТ «Лідскі піўзавод». Тут можна заказаць і куфаль-другі добрага піва, патанцаваць. Але пасля гэтага лепей не кідацца ў возера ўніз галавою.

# Ля польскіх шахтаў сышліся

**На працягу пяці дзён у польскім горадзе Легніца працавала міжнародная канферэнцыя, на якую з'ехаліся навукоўцы-медыкі, урачы з ФРГ, Польшчы, Галанды, ЗША, Літвы, Канады, Украіны. Беларускі бок быў прадстаўлены трыма гарадзенцамі: у канферэнцыі бралі ўдзел прафесар М.Амяльянчык, дацэнт Ю.Кісялеўскі (мединстытут) і дацэнт дзяржуніверсітэта П.Шпакаў.**

- Навуковая канферэнцыя праходзіла ў раёне медных шахтаў, - гаворыць Юрый Кісялеўскі. - Побач з шахтамі нават паветра насычана шкоднымі рэчывамі. А сама канферэнцыя была прысвечана праблемам прафілактыкі і аховы здароўя дзяцей. Яе праводзіў прыватны фонд дапамогі дзецям медных шахт. Паляк<ай> непакоіць змяшчэнне ў крыві солей цяжкіх металаў - свінца, медзі, кадмія, цынка, ртуці. А мой даклад быў прысвечаны пытанням, звязаным з уплывам фактараў навакольнага асяроддзя на спадчынную паталогію.

Кароткая гутарка з навукоўцамі-медыкам наводзіць вось на якую думку. А ці па сілах, напрыклад, г.Бярозаўка Лідскага раёна склікаць падобную канферэнцыю ці стварыць прыватны фонд абароны ўласных дзяцей, якія дужа пакутуюць ад выкідаў шклозавода «Нёман»?

**Вадзім Жураўлёў**

# Свята ўз'яднання

**Гарадзенскі аблвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў, прысвечаных 60-годдзю ўз'яднання ўсходніх і заходніх земляў Беларусі.**

У юбілейныя дні гаррайвыканкамы правядуць ўрачыстыя сходы і мітынгі. Згодна з планам аблвыканкама, ў дзяржаўных СМІ прадугледжаны цыклы публікацый з гісторыі аб'яднання, а таксама правядзенне «круглага стала» з удзелам вучоных, прадстаўнікоў палітычных партый, рухаў і грамадскіх арганізацый на тэму «Значэнне ўз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі для развіцця беларускай дзяржаўнасці». Плануецца ўпарадкаванне архітэктурных помнікаў, мемарыяльных знакаў, якія маюць дачыненне да гістарычнай даты. У школах і бібліятэках вобласці рыхтуюцца да адкрыцця тэматычныя выставы. На базе Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы пройдзе міжнародная канферэнцыя гісторыкаў. Прадугледжаны таксама іншыя мерапрыемствы.

**Антон Лабовіч**

 

**Гэты артыкул быў накіраваны Прэзідэнту Беларусі Алясандру Лукашэнку з просьбай надрукаваць яго ў любой дзяржаўнай газеце Беларусі. Аляксандр Рыгоравіч просьбу былога настаўніка не выканаў. Аднак ліст нейкім чынам трапіў у «Белорусскую Деловую Газету», дзе і быў надрукаваны 11 чэрвеня. Лічым, што гэты артыкул зацікавіць таксама і чытачоў ПАГОНІ.**

# Запозненае

# Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку ад

Рашэнне напісаць гэты ліст я прыняў год таму. Тады Вы - гарант Канстытуцыі - актыўна, з высокіх трыбун «разоблачали» мае «проступки».

Пачалі 14 лістапада 1997 года, ужо на трэці дзень майго арышту, яшчэ да прад'яўлення абвінавачвання. У «Рассвете» Прэзідэнт Беларусі на ўвесь свет раструбіў, што, маўляў, В.С.Леонаў і В.К.Старавойтаў «убрали Миколуцкого», «прокручивали» за мяжою грошы і на гэтым «наваривали», у В.С.Леонава ва ўласнасці пяць кватэр і столькі ж катэджаў. Апошнія абвінавачванні прагучалі ў сакавіку 1998 года, у Гродне. І тады, у сакавіку, ў Жодзінскі ізалятар, куды Вы перавезлі мяне «на перевоспитание» з Магілёва, з'явіліся следчы ад пракуратуры і генерал ад міліцыі, каб дапытаць мяне «в качестве свидетеля». Змест пытанняў, якія пры гэтым мне былі зададзены, зусім не адпавядаў «ролі сведкі». Такія пытанні задаюцца тым, каго падазраюць ці тым, каго абвінавачваюць у забойстве Мікалуцкага і ў замаху на жыццё Прэзідэнта.

Гэты допыт канчаткова дапамог мне зразумець, чаму служба асабістай аховы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь такім незвычайным спосабам здзейсніла «захват» В.С.Леонава ў рабочым кабінеце і з прамой тэлевізійнай трансляцыяй. Тады я і вырашыў напісаць гэты ліст - але толькі пасля завяршэння следства і прад'яўлення мне абвінавачвання, а таксама пасля азнаямлення са зместам усіх тамоў крымінальнай справы. Мінула 17 месяцаў з часу майго арышту, і гэты момант надышоў. Пра што ж варта паведаміць?

## Яўка з павіннай, ці У турму я павінен быў сесці

З самага пачатку зраблю агаворку, што ні пра якую «паблажку» прасіць Вас не буду. Прычынаў для такіх не характэрных для зняволеных паводзінаў некалькі. Спынюся на дзвюх.

Першая заключаецца ў тым, што перад Богам і народам Беларусі я заслужыў такое пакаранне, як турэмнае зняволенне. Прымаю яго як заслужанае пакаранне за раней здзейснены грэх. У чым жа ён?

Людзі, падобныя да Вас, пры поспехах у асабістым жыцці, кар'еры (а ў Вас поспех галавакружны) часта памыляюцца, лічаць сябе асобамі выключнымі, якія не допускаюць няправільных, а тым больш злачынных дзеянняў. Гэтыя людзі вельмі хутка наогул «забываюцца» пра здзейсненыя імі раней непрыстойныя ўчынкі. Даводзіцца нагадваць.

У перыяд першай Вашай няўдачнай спробы прарвацца да Вярхоўнай Улады -у народныя дэпутаты СССР, калі Вы што ёсць моцы змагаліся за дэпутацкі мандат з В.Ф.Кебічам, у Вас былі сур'ёзныя «рознагалоссі» з Крымінальным кодэксам. Пракурор Шклоўскага раёна, абласны пракурор згодна з законам павінны былі асудзіць Вас на турэмныя нары. (Маецца на ўвазе гісторыя са збіццём механізатара, пра якую раней пісала прэса, - **Рэд.**)

Пра гэта ведалі людзі не толькі ў Шклоўскім раёне, дзе Вы тады працавалі дырэктарам саўгаса. Сакратары райкамаў партыі з Магілёўскай сельскай выбарчай акругі, у якой Вы ініцыявалі сваё вылучэнне кандыдатам у дэпутаты, вывучылі Вас нядрэнна. Многія з іх патрабавалі тады ад мяне ў адпаведнасці з Уставам КПСС учыніць запытанне з камуністаў-пракурораў за неналежнае выкананне сваіх абавязкаў.

Вы памятаеце, як востра ішла барацьба за мандат дэпутата. З Вашага боку ўсялякія панянцці наконт такту, ветлівасці ды іншых «интеллигентских глупостях» былі забытыя. У знак узаемнасці на такі ж шлях сталі і некаторыя сакратары райкамаў. Канешне ж, тое «свавольства» не ідзе ні ў якае параўнанне з Вашымі цяперашнімі правіламі палітычнай барацьбы. І тым не менш, нават пасля Вашага пройгрышу, я палічыў за неабходнае асабіста папрасіць у Вас прабачэння, каб падвесці рысу пад скандаламі. Папрасіць прабачэння за нанесеныя Вам абразы з боку партыйных работнікаў, разлічваючы, што і Вы зробіце тое ж самае, і ніякія судовыя разбіральніцтвы не спатрэбяцца. Але ні я, ні іншыя прабачэнняў ад Вас не дачакаліся.

Сёння я вымушаны прызнаць, што тады праігнараваў настойлівыя прапановы таварышаў па партыі дамагчыся ад пракурораў выкарыстання ў дачыненні да Вас законаў. Я спадзяваўся, што А.Р.Лукашэнка і без гэтага зробіць неабходныя высновы. Увогуле, я лічыў, што помста - доля бездапаможных.

Як паказаў час, такія паводзіны камуністаў Леонава, Нікалаева, Бажэлкі дазволілі Вам не толькі пазбегнуць турэмнай камеры, але і працягнуць палітычную кар'еру. Вы сталі Прэзідэнтам Беларусі. Вы шмат, даволі шмат паабяцалі людзям. Яны Вам даверыліся. Прыгадваецца, Вы запэўнілі беларусаў, што калі іх жыццё на працягу двух гадоў не палепшыцца, Вы самі адмовіцеся ад пасады Прэзідэнта. Ну як тут было Вам не паверыць! Такіх жа «гарантыяў» не даваў ніводны кандыдат у Прэзідэнты.

У Беларусі сапраўды ёсць шанец жыць лепей, чым многія нашы суседзі. Але - не пры Вашым кіраўніцтве. Вы ўжо прызналі яго вынікі: жыццё стала пагаршацца. Глыбока упэўнены, што пакуль Вы не адыдзеце, так будзе адбывацца і далей.

Наша Беларусь перажывае сёння трагічныя дні. Пра такое нават у самым страшным сне не магло прысніцца! Размова ідзе ўжо не аб збядненні, не пра палітычныя рэпрэсіі. Перад нарастаючым гневам людзей Вы маеце намер «здаць» Беларусь за даўгі Расіі.

За гэта - за тое, што не распазнаў Вас, за тое, што спрабаваў падыходзіць да Вас з пункту гледжання агульначалавечай маралі, за паказное «рыцарства», якое не апраўдана ніякімі ўласцівасцямі Вашай душы - ды і ці ёсць яна ў Вас наогул? - каюся я цяпер кожны дзень і прашу прабачэння ў Бога і беларусаў. І да канца Вашага кіравання абавязаны я сядзець у турме.

Другая прычына, з якой не збіраюся я прасіць літасці, - гэта адсутнасць маёй вінаватасці перад В.К.Старавойтавым, перад работнікамі АТ «Рассвет», перад беларускім народам, дзяржавай Рэспубліка Беларусь і нават перад яе Прэзідэнтам. Мае довады супраць сфабрыкаваных па Вашай камандзе абвінавачванняў выказаны ў лісце на імя суда. Калі ёсць зацікаўленне, Вам дадуць копію майго грунтоўнага адказу па ўсіх пунктах абвінавачвання. Пакуль жа, акрамя як у судзе, я не маю права «разглашать тайну следствия».

Але пра адзін «даўжок», які не адлюстраваны ў матэрыялах следства, я Вам нагадаю. Асабіста Вы падманулі мяне і групу расійскіх фізікаў на «особо крупную сумму». Асабіста мяне - на кошт аўтамабіля сярэдняга класу. Без сумневу, Вы памятаеце, як цвёрда абяцалі расіянам заплаціць за тое, што яны забяспечылі на Беларусі сонечнае сухое надвор`е ў перыяд уборкі ў 1996 і 1997 гадах. Вы асабіста паабяцалі Мартынаву за кубкам кавы у Вашым кабінеце, што пытанняў з аплатай такой важнай работы не будзе. Па Вашай заяўцы ў тыя гады было забяспечана спрыяльнае надвор`е, і Вы не саромеліся гаварыць: «Я даў Вам патрэбнае надвор`е». Чаму ж не забяспечылі Вы такое надвор`е ў 1998 годзе? Чаму згубілі зерне і корм для жывёлы?

Ведама ж, не за працу ці яе вынікі, але за праезды па чыгунцы, за гатэлі, за сувязь, за харчаванне ў рэстаранах нехта ж павінен быў плаціць. Вось гэтыя «авансавыя» плацяжы да таго, як Вы аплаціце абяцанае, плаціў я. Як міністр, я авансаваў гэтую работу ўласнымі грашыма, заробленымі яшчэ ў Германіі. Памер гэтага «авансу» практычна роўны памеру ўсяго майго міністэрскага заробку за 1994-1997 гады.

Адпаведна Вашаму даручэнню, поўную аплату павінен быў правесці І.І.Ціцянкоў. Аднак паводле надуманай падставы ён адмовіўся зрабіць гэта. Абмеркаваць з Вамі праблему даўгоў Вы не дазволілі - пасадзілі Леонава ў турму. Спадзяюся, што мінулы год нечаму ўсіх навучыў. Для даведкі: гэтыя людзі карэктавалі ў Беларусі надвор'е з 1988 года, з перапынкам ў 1992-1994 гадах. У тыя гады у адпаведнасці з указаннем Кебіча, ім плацілі. Заплаціце абяцанае і Вы. І тады, магчыма, пры неабходнасці яны зноў дапамогуць Беларусі. Але гэта не просьба - гэта напамін аб даўгах.

Зрэшты, пішу зусім не для таго, каб патрабаваць доўг. Пішу таму, што маю на гэта маральнае права, і таму, што абавязаны сказаць Вам і Вашым паплечнікам услых тое, што чакае вас усіх бліжэйшым часам. І Вы ведаеце, што я маю рацыю. На аснове аналізу справаў у эканоміцы і палітычных працэсаў я ж прадказаў Вам яшчэ за год Ваша абранне прэзідэнтам. Многім грамадзянам гэты прагноз быў даведзены мною значна раней. Я прадбачыў канец палітычнай кар'еры ўсім (пасля Слюнькова) першым кіраўнікам Беларусі і асабіста паведаміў пра гэта кожнаму з іх. Вас таксама непакоіць гэтае пытанне - што наперадзе? Адказ магчымы толькі на падставе непрадузятага і грунтоўнага аналізу.

## Што ж адбывалася і адбываецца з Беларуссю?

Пытанні гэтыя ўзаемазвязаны. Яшчэ ў 1993 годзе ў Авальнай зале, дзе працаваў тады Вярхоўны Савет 12-га склікання, на маё пытанне: «Што ж Вы будзеце рабіць з краінай у выпадку абрання Вас Прэзідэнтам? У Вас жа няма нават элементарных эканамічных ведаў, нягледзячы на дыплом!» - Вы адказалі: «Я запрашу прафесіяналаў і надам ім усе неабходныя паўнамоцтвы, дапамагу ім».

Вам у 1994 годзе ўдалося прывабіць ва ўрад прафесіяналаў. Прыйшлі яны не за нажывай. Павольна, але жыццё людзей паляпшалася - аж да рэферэндума 1996 года. Атрымаўшы ж у выніку рэферэндума неабмежаваную ўладу, Вы пачалі сваё некампетэнтнае ўмяшальніцтва ва ўсе сферы дзейнасці. Замест узважанай палітыкі, прыкладам, у фінансах нормаю стаў авантурызм і крымінал.

Атрымаўшы з дапамогай сацыяльнай дэмагогіі і відавочных падтасовак перамогу на рэферэндуме 1996 года, за сваю чарговую мэту Вы ўзялі заваёву Маскоўскага Крамля. Беларусь як дзяржава цяпер уяўляла для Вас інтарэс толькі ў якасці плацдарму для дасягнення гэтай мэты. Паверце, толькі абмежаваны ў сваім разумовым развіцці чалавек, не разумее сапраўдных мэтаў усіх Вашых «інтэграцыйных памкненняў». Тыя ж, хто побач з Вамі «одобряет» і «поддерживает» гэтыя ініцыятывы, крывадушнічаюць і падманваюць нават самі сябе.

Але адначасова з гэтым Вы сваёй практыкай адміністратыўнага ўмяшальніцтва ў фінансавае, гаспадарчае жыццё дзяржавы вырашылі даказаць, што няма такой навукі, як эканоміка, што не існуе аб'ектыўных эканамічных законаў, альбо што А.Р.Лукашэнка так адораны, што можа кіраваць паводле законаў, якіх да гэтай пары ніхто не ведаў. Росквіту гэтай «заканатворчасці» ў выглядзе супярэчлівых указаў цяпер ўжо не перашкаджалі апазіцыянеры. Усе шкодныя сілы ў асобах С.Г.Шарэцкага і З.С.Пазьняка не мелі ніякага ўплыву на працэсы жыцця ў Беларусі. Такім чынам, усе сумніўныя «дасягненні» апошніх двух гадоў - гэта Ваша асабістая «заслуга». У тым ліку - галеча і разлаванасць, якія зараз пануюць у грамадстве.

Аднак, як Вы мусіце пераконвацца, далёка не ўсе грамадзяне Беларусі - падлізнікі ды баязліўцы. Нямала такіх, хто працягвае выступаць супраць навязваемых Вамі жабрацтва і палітычных рэпрэсіяў. Не знайшоўшы выйсця з тупіка ў апоры на сілы саміх беларусаў, Вы адважыліся здаць Беларусь за даўгі Расіі і нават пагадзіліся на другую - ці на трэцюю? - ролю ў саюзнай дзяржаве.

І трэба ж, якая няўдзячнасць з боку крамлёўскіх палітыкаў! Не толькі не дапусцілі «нацмена» на палітычную сцэну Расіі, але і капітуляваць не спяшаюцца. Ніякіх турботаў за Ваша хісткае становішча!

А становішча ж на самой справе хісткае... Людзям становіцца зразумела, што развал у эканоміцы Беларусі - гэта не толькі і нават не столькі наступствы крызісу ў Расіі. Хто ж вымушаў нас - дакладней, Вас - адварочвацца ад цывілізаваных краінаў? Ніхто ж Вас з Еўропы не выганяў. Вы самі зрабілі стаўку толькі на Расію, у той час як любому прадпрымальніку з нармальнай псіхікай зразумела: «Толькі вельмі дурная курыца складвае ўсе яйкі ў адзін кошык». Хто ж вымушаў Беларусь кіравацца курыным мысленнем?

Усе памылкі ў Вашым кіраўніцтве, пра якія шмат распавядалі ды й зараз кажуць прафесіяналы, - гэта вынікі ігнаравання Прэзідэнтам Беларусі нават не законаў макраэканомікі, але асноватворных, тысячагадовых біблейскіх запаветаў. Для мяне як былога партыйнага работніка важна нагадаць Вам, што нават маральны кодэкс будаўніка камунізму быў спісаны з Божых запаветаў. Вам падабаецца бываць у царкве. Але адна справа - пастава, маска, а другая - існасць чалавека. Даводзіцца нагадаць ісціны, на якія Вы забыліся. І першая з іх гучыць так:

**Не ўкрадзі!**

Вы не прымаеце абвінавачвання наконт таго, што на Ваша імя адкрыты рахункі ў замежных банках. Але навошта тады Вы змяшчаеце (абмінаючы парламенцкі кантроль, па-за ўвагай грамадскасці) вялікія сумы грошай у так званыя «прэзідэнцкія фонды»? Я не веру, што гэта робіцца выключна дзеля таго, каб употай ад парламента пакласці дзяржчыноўнікам па 700 даляраў у квартал «на лячэнне». Навошта трэба было пазбаўляць ад падаткаў рознага кшталту сумніўныя арганізацыі, даючы ім ільготы і дазваляючы такім чынам рабаваць Беларусь? Калі Вы не хочаце «уводить» грошы ад народа і «наваривать» на іх, то лічыце іх публічна - праз бюджэт, проста на вачах народа.

Старажытная мудрасць гаворыць:

1. Не судзіце, ды не судзімыя будзеце.

2. Бо якім судом судзіце, такім і судзімыя будзеце.

Звярніце ўвагу на Ваш «суд» нада мною. Праз год мне з грубейшымі парушэннямі закона прад'явілі абвінавачванне, справу ў асноўным я прачытаў. І няма там ні слова, ні нават намёку на маё дачыненне да забойства Мікалуцкага, да «пракручвання» грошай, няма катэджаў ды кватэраў, прыпісаных Вамі Леонаву. Са справы вынялі нават пратакол допыту «сведкі» Леонава па справе аб забойстве Мікалуцкага і ўсё, у чым «абвінаваціў» мяне Прэзідэнт.

Не ўпікайце следчых. Яны дбайна і добрасумленна «копали» і «просеивали» ўсе гарады і вобласці Беларусі. Гадавая праца велізарнай следчай брагады не пацвердзіла Вашых словаў толькі таму, што (як Вам ды і мне дакладна вядома) ўсё сказанае Вамі на мой адрас - чысцейшай вады выдумка. Канешне, Ваш «вырак» Леонаву яшчэ да суда аказаў націск на следства і экспертаў. І нават віцэ-прэм'ер В.Г.Гаркун, складаючы на мяне характарыстыку, напісаў заведамую хлусню.

Цяпер Вы паставілі новую задачу - даказаць, што М.Н.Чыгір і В.А.Ганчар - злодзеі. Праўда, узнікаюць складанасці. Як Вашы слухачы павераць гэтаму пасля масавага «выкрыцця» Багданкевіча, Віннікавай, Ганчарыка. А калі Вы ўжо распачалі кагосьці «судзіць» проста з трыбуны, дык трэба было хаця б закон шанаваць - разглядаць справу ў адкрытым судзе. Чаму ж нельга зрабіць суд і па Мікалуцкаму, і па Старавойтаву адкрытым? (Суд па Старавойтаву быў адкрытым - **Рэд.**) Навошта хаваць ад людскога гневу закаранелых крымінальнікаў - Леонава і Старавойтава?

**Не забі!**

Аналізуючы несправядлівасць Вашых пазасудовых выракаў, не магу не спыніцца на забойстве В.А.Ткачова ў Магілёўскім ізалятары. Пракуратура даўно прывязала яго да мяне. Але нягледзячы на шантаж і націск, да гонару Ткачова, ён адмовіўся ад прапановаў следчых і былога намесніка Генеральнага пракурора Кандрацьева абылгаць Леонава ў абмен на свабоду. Гэта было. Ён асабіста Вам расказваў і, магчыма, Вы пра гэта памятаеце. Я ж дзякаваў і дзякую Ткачову.

Але ні апраўдваць, ні судзіць Ткачова альбо нейкага іншага грамадзяніна, які яго забіваў (ці даводзіў да самазабойства, адпаведна афіцыйнай версіі), я не маю права. Скажу толькі тое, што не веру ў гэтае самазабойства. Мяркуючы па зместу зададзеных мне ў якасці «сведкі» пытанняў у Жодзіне, у злачынстве супраць Мікалуцкага і ў якіхсьці злосных задумах супраць Вас Ткачова відавочна меліся абвінаваціць.

Наконт гібелі Ткачова, без сумневу, вядома нямала. Але не ўсё. Лічу за неабходнае дапоўніць інфармацыю.

Таксама, як і Вам летам 1993 года, у кастрычніку 1994 года В.А.Ткачоў на асабістым прыёме ў В.В.Шэймана ў кабінеце распавёў яму, што ён, Ткачоў, валодае інфармацыяй аб проціпраўнай дзейнасці адказных супрацоўнікаў праваахоўных органаў Магілёва, пра іх сувязі са злачынным светам. Ткачоў прапанаваў, а Шэйман прыняў гэтую прапанову - запісаць на відэастужку канкрэтныя эпізоды гэтых сувязяў. Прыкладна праз год паводле неаднаразовых настойлівых просьбаў Ткачова я быў вымушаны перадаць старшыню КГБ Беларусі прапанову, якая заключалася ў тым, што ён, Ткачоў, гатовы падаць канкрэтныя, у тым ліку зафіксаваныя на відэастужцы факты атрымання хабару супрацоўнікамі КГБ і АУС Магілёва.

І Шэйману, і Мацкевічу пра Ткачова я расказаў усё, што ведаў, у тым ліку і тое, што ў апошняга, адпаведна яго словам, ёсць вялізная інфармацыя, «цяжкая» інфармацыя. Прыкладам, ён прапаноўваў задакументаваць і такія факты, як выраб на дзяржаўных заводах няўлічанай «левай» гарэлкі, яе транспарціроўку аўтатранспартам ў Магілёў і Расію пад прыкрыццём супрацоўнікаў КГБ і ў суправаджэнні ДАІ.

***Вам не дакладалі і пра тое, што ў Ва***шай перадвыбарчай кампаніі ў Магілёве і вобласці наўрад ці быў больш перакананы і актыўны прыхільнік кандыдата ў Прэзідэнты А.Лукашэнкі, чым Ткачоў. Калі напярэдадні рэферэндума 1996 года да Ткачова дайшла інфармацыя, што мяне «сватае» апазіцыя, ён што было моцы ўгаворваў мяне дапамагаць «свайму» Прэзідэнту. А калі ў 1997 годзе расчараваўся ў Вас як ў Прэзідэнце, дык таксама пачаў казаць пра гэта адкрыта. Я разумею, што многае тут здаецца незразумелым. Але ж Ваш «пазасудовы вырак» у выглядзе «захопу» мяне ў рабочым кабінеце, з кайданкамі і тэлекамерамі, быў вынесены Вамі на падставе інфармацыі наконт нейкіх жудасных злачынстваў Ткачова і маіх з ім сувязяў. Аднак па даносах меркаваць нельга - гэта вядзе да дзяржаўнага тэрору! І гаворка наогул пра тое, хто ж мае і ці мае права судзіць.

Вам сказалі, нібыта мы перашкаджалі і шкодзілі Вам. Аднак у 1998 годзе ні я, ні Старавойтаў, ні Ткачоў ужо ніяк не маглі Вам ні перашкодзіць, ні нашкодзіць. Але ж вынікі паводле ўсіх паказчыкаў пагоршыліся! Вы былі вымушаны нават звольніць з пасады майго «пераемніка», вінаватасць якога была ў тым, што ён слепа выконваў Вашыя ўказанні! Гэта яшчэ раз даказвае, што Ваша палітыка ў сельскай гаспадарцы (і не толькі ў сельскай) памылковая. Але Вы ўпарціцеся, і ўчыняеце новае ды новае зло людзям. Нашыя ж са Старавойтавым прапановы наконт рэфармавання вёскі рана ці позна будуць прынятыя. Яны вядомыя ўсім, мы з іх сакрэтаў - накшталт пазабюджэтных фондаў -не рабілі.

Апостал Іаан Багаслоў павучаў:

**Кожны, хто палае нянавісцю да брата свайго, ёсць чалавеказабойца.**

Колькі ж блізкіх Вам некалі людзей цяпер пераследуюцца!

Як дружна пачыналі Вы калісьці сумесную працу з В.І.Ганчаром. Побач вы глядзеліся досыць сімпатычна. Відаць, і ў гасцях у Ганчара бывалі. Але...разышліся. Такое ў палітыкаў здараецца, але ж навошта «ненавідзець брата свайго»? Справа дайшла да фізічных катаванняў. Хіба мог дазволіць сабе капітан міліцыі чыніць здзек над вядомым усёй краіне чалавекам, двой

